# Самапомач Samapomač

Беларуская кооператыўна-гаспадарчая часопіс

Год V. | Вільня, Сьнежань 1936 г. | № 12.


*Хай злыдні над намі,
скрыгочуць зубамі
Любі сваю ніву, свой
край,
І, колькі ёсьць сілы,
да самай магілы
Ары, барануй,
засявай!..*
ЯНКА КУПАЛА.



*Усе вялікія падзеі народаў і ўсе цывілізацыі былі створаныя дабравольнымі стараньнямі аб'яднаных людзей... самапамачу.*
*Джордж* РЭССЭЛЬ
(Ірляндзец).



## Ceny ŭ Vilni

**Zbožža.** *14.XII.36, za 100 kiloђram.*

| | |
|---|---|
| Žyta. . . . . . . . . . . | 18.05—19.50 |
| Pšanica . . . . . . . . . . | 22.75—24.50 |
| Jačmień na pansak . . . . . | 21.25—22.75 |
| Avios . . . . . . . . . . . | 15.60—16 50 |
| Hračycha . . . . . . . . . . | 20.00—20.50 |
| Muka pšaničnaja . . . . . . | 25.50 - 44.00 |
| Muka žytniaja da 50 proc. . . | 28.50—29.00 |
| Muka žytniaja da 65 proc. . . . | 26.00 26 50 |
| Muka razovaja da 95 proc. . . | 21.00 21.75 |
| Votruby žytnija . . . . . . . . | 12.75—13.25 |
| „ pšaničnyja . . . . . . | 13.25—13.75 |
| Łubin sini . . . . . . . . . . | 9.75—10 25 |
| Sieттia lannoje b. 90 proc. . . | 36.50 - 37.50 |
| Lon trapany, Vałožyna . . . . | 1470—1510 |
| Lon trapany, Harodziej . . . . | 1640—1680 |
| „ „ Miory . . . . . | 1370—1410 |
| Lon časany, Harodziej . . . . | 1930—1970 |
| Kudziela, Harodziej . . . . . | 1430 - 1470 |

**Małočnaje za 1 kilo (15.XII.36).**

| | |
|---|---|
| Masła najlepšaje, I. sort za kil. ŭ hur. | 3.10—3.20 |
| „ „ „ „ „ u detalu | —3.50 |
| Masła stałovaje II sort za kilo ŭ hurcie | 3.00—3.10 |
| „ „ „ „ „ u detalu | —3.40 |
| Syr litoŭski, za kilo ŭ hurcie . . | 1.40—1.80 |
| „ „ „ „ u detalu . . | 1.60—2.20 |
| Syr ementalski(švajc.)za kilo ŭ hurcie | 2.40—2.50 |
| „ „ „ „ „ u detalu | —3.00 |
| Jajki, kapa . . . . . . . . . . | 6 60—7.80 |
| „ za štuku . . . . . . . | 12—14 hraš. |

## Замест кнігапісу.

У рэдакцыю нашу прысланы наступныя выданьні:

**Podręcznik** dla sklepowych spółdzielni spożywców, Warszawa 1936, str. 330.

**A. Brandus i I. Czaiński:** Połowy, zasalanie i handel śledziami, Warszawa 1936 r., str. 47.

**Stanisław Thugutt:** LXV lat w pracy i walce, Warszawa 1936, str 40.

**Jan Czaiński:** Oliwa Nicejska, uprawa, przeróbka i handel, Warszawa 1936, str. 16.

**St. Thugutt:** Romuald Mielczarski spółdzielca-patrjota-człowiek, Warszawa 1936, str.32.

**Jan Czaiński:** Wanilja, zbiory, przygotowanie, handel, Warszawa 1936, str. 16.

**Iza Nicholson:** Promień słońca, Warszawa, str. 48.

**Інж. Іван Прокопів:** Алькоголізм, Львів 1936, стр. 39.

**Ю. Каменецький:** На Роздоріжжі або за і проти алькоголю, Львів 1936, стр. 80.

**Календарчик „Відродження“** 1937.

**„Відродження“** Ілюстрований журнал українського протиалькогольного ў нікотинного руху.

**Eugenjusz Mejer, inż. roln.:** Gospodarstwa powstałe w wyniku przebudowy ustroju rolnego, Wilno 1936, str. 34+LXV.

**Чытайце самі і сярод знаёмых пашырайце адзіны ў нас гаспадарскі часапі**

# „Самапомач“

„Самапомач“ выходзіць рэгулярна што месяц пяты ўжо год і зьяўляецц найтанейшай гаспадарчай газэтай.

Зьмест «Самапомачы» ў гэтым 1936 годзе значна павялічаны ў аддзеле сельскай гаспадаркі, дзе часьцей падаюцца рады аб польнай гаспадарцы, жывёлагадоўлі, садоўніцтве, агародніцтве і землябробскай эканоміцы.

Гадавая складка на адзін экзэмпляр (12 нумароў) „Самапомачы“, разам з паштовай перасылкай — 3 (тры) зл. Калі зьбярэцца найменш дзесяць складчыкаў (дзесятка), якія згодзяцца атрымоўваць часапіс на адзін супольны адрэс, дык кожны такі складчык замест трох злотаў плаціць толькі 1 зл. 20 гр. (усе разам 12 зл.).

Складкі на «Самапомач» найвыгадней пасылаць разрахункковым пераказам на **Wilno I, konto Nr. 40 „Samapomacz,“** а ўсякія пісьмы — на адрэс:

Redakcyja časapisu
„Samapomač“,
Vilnia, — Wilno,
Połackaja vul. 9 – 4.

Рэдакцыя адчынена ў аўторкі і пятніцы ад 9-ай да 12-ай гадз. дня.

Samapomač

BIEŁARUSKI
KOOPERATYŬNA - HASPADARSKI
ČASAPIS.

Adres:
VILNIA (Wilno), Połackaja vul. 9—4.

Самапомач

| Hod V. | Vilnia, Śniežań 1936 h. | Nr. 12 (53). |
|---|---|---|

# „Беларускі Гаспадар — Biełaruski Haspadar“.

Try miasiacy tamu nazad, robiačy padrachunak našaj pracy z pryčyny 50-ha numaru „Samapomačy“, my spatkalisia z pieršymi konkretnymi pažadańniami źmieny dahetulašniaha kirunku „Samapomačy“. Ŭśled za hetym praviedzienaja ankieta pakazała ŭ čym heta źmiena maje być. Čas, kali zakładałasia „Samapomač“ z dahetulašnim kirunkam, davaŭ siakija-takija nadziei na raźvićcio rodnaje biełaruskaje kooperacyi. I jakraz u pomač žyvomu słovu pry pracy na kooperatyŭnaj nivie i była założana „Samapomač“. Časapis mieŭsia zaniacca pierad usim kooperacyjaj, źmiaščajučy tolki ŭ dadatku mataryjały z haliny sielskaje haspadarki. Tamu i časapis byŭ nazvany „kooperatyŭna-haspadarskim“: najpierš **kooperacyja** i paśla tolki haspadarka.

Čas adnak płyŭ i žyćcio źmianiałasia; źmianiałasia pry hetym jano na niekaryść volnaj, niezaležnaj kooperacyi, jakoj „Samapomač“ miełasia słužyć. Heta źmiena stałasia asabliva vyraznaj paśla taho, jak uvajšoŭ u siłu novy polski zakon ab kooperacyi z 13 sakavika 1934 h. Ad hetaha času ŭsio mieniej i mieniej možna było pracavać dla kooperacyi. Adčuli heta baluča ŭsie kooperatary ŭ Polščy, a tymbolš heta adčuli kooperatary — Biełarusy. Nie adzin sapraŭdny pioner kooperacyi ŭ Polščy zhadziŭsia lepš złamacca i adyjšci, čymsia nahinacca da novych formaŭ, jakich kooperatyŭnymi nijak nia moh pryznać.

Heta ŭ Polščy ahułam. A ŭ nas žyćcio płyło dalej, nie dajučy nijakaj nadziei na mahčymaści raźvićcia niezaležnaj kooperacyi biełaruskaj. Apošnija placoŭki biełaruskaha kooperatyŭnaha ruchu adna za adnej upadali „z pryčyn ad siabie niezaležnych“ i tamu ŭtrymańnie časapisu dla ličanych tolki placovak stałasia prosta niemahčymym. Z druhoha boku što raz vyraźniej zarysoŭvajecca patreba časapisu, jaki bolš čym dahetul „Samapomač“ davaŭ-by matarjału haspadarska-ziemlarobskaha.

Jak-ža ŭsio heta pahadzić? Jak dać bolš matarjału ziemlarobskaha i nie prarvać ciažkaj pracy kooperatyŭnaj?

Vot-ža hetaha pytańnia da siahońnia jšče my nia vyrašyli, bo ŭściaž nadychodziać novyja i novyja plany našych čytačoŭ i supracoŭnikaŭ. Nia chočam nikoha paminuć i da kožnaha hołasu chočam prysłuchacca z poŭnaj uvahaj. Dziela hetaha akančalnaj raźviazki siahońnia jšče nie dajom. Padajom tolki svoj plan ułožany na padstavie dahetulašnich redakcyjnych naradaŭ, kab časapis nadalej mieŭ za hałoŭnaje zadańnie ziemlarobskuju haspadarku z usimi jaje pabočnymi zaniaćciami i kab adnačasna vioŭ stały addzieł ab kooperacyi. U źviazku z hetym i nazoŭ takoha časapisu musiŭ by być takim, kab jon byŭ byccam lustram svajho źmiestu. Najbolš da hetaha adpaviednym byŭ by nazoŭ časapisu „Беларускі Гаспадар“ — Biełaruski Haspadar“.

Padajučy hety redakcyjny plan našaha budučaha časapisu, my adnačasna zajaŭlajem, što kali ŭ praciahu najbližejšych dvuch tydniaŭ (da 15.1.1937 h.) nie pastupić da nas jaki pierakonyvajučy plan novy, dyk budziem ličyć vyšejpadadzieny svoj plan za pryniaty i pieradadziom jaho da vykanańnia ŭžo z najbližejšaha numaru ŭ nastupnym hodzie.

## Da našych padpiščykaŭ i dabradziejaŭ.

*Padčas palicyjnaj revizii dnia 28 listapada sioleta byli zabrany i dahetul nia viernieny miž inšym adresy našych padpiščykaŭ. Prosim dziela hetaha zrazumieńnia i vybačeńnia, kali chto ŭ paru nie dastanie jakohakolečy numaru „Samapomačy“, pakul nam nia ŭdasca na padstavie paštovych kvitoŭ sastavić hetki śpis adresoŭ nanova.*

*Adnačasna prosim usich, chto z tych ci inšych pryčyn dahetul byŭ našym daŭžnikom, prysłać nam svoj doŭh.*

# Сельская гаспадарка.

## Яшчэ аб лёне.

Лён гэта расьліна нашых беларускіх палёў, нашага клімату. Гадуем мы яго ад даўняе пары і ад даўняе пары пападаемся з аднэй абмылкі ў другую. Пад сучасную пару, узімку, няма чаго рабіць з лёнам у полі. Але гэта пара найлепшая, каб у супакоі абдумаць тыя спосабы гадаваньня і дагляданьня лёну, якія радзіць нам навука. Вот-жа ўважайма:

Лён можа даваць карысьць двуякую: валакно і алей. Таму й гадуецца ён або на валакно, або на насеньне. Найлепшае валакно дае лён у клімаце, дзе ёсьць досыць сырасьці. І наадварот, у старонах сухіх, але з добраю чарназёмнаю зямлёю гадуецца лён на насеньне. Клімат (паветра) і землі беларускія такія, што тут няма мовы аб сырым клімаце — далёка мора — і няма чарназёму. Дзеля таго рызыкоўна ў нас гадаваць лён толькі на валакно або толькі на насеньне. Сама прырода загадвае беларусу гадаваць лён на валакно і на насеньне аднычасна. Да гэтага найбольш адпаведным ёсьць гатунак лёну **даўгунец**. Апрача іншых дадатніх свомасьцяў гэтага гатунку лёну трэба заўважыць той, што якасьць ягонага ўраджаю (насеньне ці валакно) залежа ў значнай меры ад таго, ці сяўба была густая ці рэдкая: пры густой сяўбе, як ведама, бывае лепшае валакно, асабліва калі гэта валакно не перасьпеліцца на пні,*) а пры сяўбе рэдкай лепшым бывае насеньне.

*) у Францыі і Бэльгіі найлепшыя сарты батысту вырабляюцца з лёну, які рвецца йшчэ за зялёна.

Гэта ўвагі агульныя. Цяпер пярэйдзем да самае справы гадаваньня лёну, г. зн. да падбору і ўрабляньня глебы пад лён, гнаеньня, сяўбы і зьбіраньня.

Што датыча глебы, дык вымаганьні лёну вялікімі назваць ня можна. Ня любіць толькі лён глебаў вельмі цяжкіх (гляістых) і сыпучых пяскоў, любіць добрую будову глебы і таму добра ўдаецца па канюшынішчах і на навінах. Лён патрабуе шмат вады і, маючы слабае карэньне, не ўдаецца на такіх глебах, якія то высыхаюць на камень, то замакаюць. Ня любіць таксама лён і такіх глебаў, якія маюць у сабе шмат азоту (тарфянішчы) і вапны, бо адно і другое псуе лянное валакно. Дзеля гэтага ня можна сеяць лёну на сьвежа паложаным хляўным гнаі, а толькі на другі, а йшчэ лепш на трэці год пасьля такога гнаеньня, пасьля бульбы, а на цяжэйшых грунтох — пасьля ярыны ці азіміны. Калі сеецца лён на канюшынішчы, дык ня можна забывацца аб канешнасьці дагнойваньня паташавымі (калійнымі) і фосфарнымі штучнымі ўгнаеньнямі. У праціўным разе лён можа палегчы, а ад гэтага папсуецца й валакно.

На колькі лён ня любіць сьвежага гнаеньня гноем хляўным, на толькі добра ўдаецца ён на глебах пагноеных штучнымі гнаямі мінэральнымі. Заўсяды аднак трэба памятаць, каб не перадаць гнаёў азотных. На адзін гэктар салетры ці азотняку ня можна даць больш як паўтара цэнтнара (150 кілёграмаў). Затое вельмі ўдзячны лён за штучныя гнаі паташавыя (на гэктар 500 кілё каініту) і фосфарныя (150 кілё супэрфосфату).

## Prykładnaja arhanizacyja paŭnočnaha ziemlarobstva.

Pieradavy česki hramadzka-navukovy i dziaržaŭny dziejač Dr. E. Reich adviedaŭ sioleta Litvu, Estoniju i Łatvlju i ŭ śniežniavym numary českaha haspadarskaha časapisu „Miloticky Hospodar“ dzielicca svaimi spaściarohami, jakija cikavyja buduć i dla čytača biełaruskaha. Užyvany tut skroś nazoŭ „paŭnočny“ nie pavinien nas dzivić: dla českaha aŭtora Litva, Łatvija i Estonija heta ŭžo choć i nie palarnaja, ale ŭsio-ž „poŭnač“. — Red.

U bałtyckich respublikach — Litvie, Łatvii i Estonii — ad Suśvietnaj vajny raźvivajecca ŭsiestaronny postup ziemlarobski. Heta takža krainy sialanskija, taksama, jak i paŭnočnyja karaleŭstvy: Švecyja, Norveh ja i Danija, sialanie jakich zdaŭna byli prykładam u koperacyi, u arhanizacyi i ŭ stasavańni viedy da čynnaj praktyki. Paŭnočnaja ziemlarobskaja vieda ŭžo dziesiatki hadoŭ prad Suśvietnaj vajnoj stałasia rucham narodnym. Ziemlarobskaje školnictva, daślednictva i litaratura byli tut doma i viali paŭnočnych sialan da dabrabytu i ŭčaście ŭ žyćci svaich dziaržavaŭ.

Bałtyckija respubliki jduć za hetym prykładam, chočačy palepšyć žyćcio svaich sialan i padniać usio ziemlarobstva ŭ svaich krajoch, starajučysia pry hetym vyrabić tavar vysokaj jakaści, zdolny konkurencyi, asabliva ŭ praduktach žyviołahadoŭli, katorymi konkurujuć z mnohimi starymi krainami. Dziela hetaha arhanizujuć svajo ziemlarobstva, a prahramu razbudovy staviać na asnovie zdarovaj koperacyi, kab hetak najlepš uspamahać vytvorstva, spažyćcio i prodaž. Heta arhanizacyja apirajecca na narodnaj prahramie ziemlarobskaha daślednictva. Taksama ŭrady usich troch respublik bačać u kooperacyi zaruku lepšaj ziemlarobskaj budučyni. Dziela hetaha ŭzajemnyja adnosiny ziemlarobstva, usich jahonych arhanizacyj, a asabliva kooperacyi da dziaržavy jošć z usich bakoŭ najlepšyja. Pry pomačy kooperacyi pravodzicca planavańnie i ar-

Глеба пад лён мусіць быць глыбака ўзарана на зіму. Сеяць лён трэба вельмі рана, калі ў зямлі ёсьць яшчэ шмат зімовай сырасьці, — або позна; у „сярэднюю пару" сеяць лён ня можна, бо тады на яго найчасьцей нападае і губіць земляная блыха. Акрамя таго раньняя пара сеяньня лёну важная ў нашых варунках яшчэ і таму, што лён тады раней дасьпее і раней яго можна лепш вырабіць на добрае валакно.

Колькі сеяць лёну на адзін гэктар? Пагляды на гэта з часам мяняюцца. Агулам ўзята кіруюцца людзі да таго, каб сеяць што раз радзей. Яшчэ нядаўна радзілі сеяць на гэктар ня менш 200 клг. лёну, а сягоньня ўжо радзяць сеяць толькі 130 — 160 кілё. Затое згодны больш-менш усе ў тым, што прыкрываць высеенае зерне трэба як можна мялчэй. Згодны таксама ў тым, што лён патрабуе дагляду. Палоць яго трэба найменш двойчы: першы раз як толькі абойдзе і вырасьце на 10—15 см, а другі — калі зацьвіце. Дзеля таго што лён пры поліве ўтоптываецца, трэба палоць заўсяды йдучы проціў ветру: вецер тады ўтаптаныя калівы нанова хутка падыймае.

Рвецца лён, калі яго гадуем на валакно і на насеньне адначасна, у пару гэтак званай ясна-жоўтай сьпеласьці. Калі лён на пні пацямнее, тады з яго добрага валакна ўжо ня будзе. Вырваны лён трэба роўнамерна высушыць, стаўляючы яго ў малыя будкі.

Аб дальшай пераробцы лянной саломы на валакно трэба асобнай і доўгай гутаркі.

Ш. Ш.



# Не марнуйце лубіну!

Чамусьці на нашых вёсках большасьць гаспадароў не зварочвае належнай увагі на зерне лубіну. Сьпеляць яго толькі, каб было чым адсеяць на другі год, а дзеля таго, што лубін вельмі ўраджайны, не шануюць яго пры зьбіраньні і амаль палова зерня астаецца на полі. А гэта вялікая страта ў гаспадарцы. Бо трэба ведаць, што лубін (зерне) хоць ня мае вялікай вартасьці на рынку, але затое можа мець вялікую вартасьць, пры ўмелым яго застасаваньні, у гаспадарцы. А гэта дзеля таго, што зерне лубіну ёсьць высока вартасьцёвай пашай для жывёлы. Праўда, што каб зерне лубіну сталася магчымым да скармляньня, трэба яго спэцыяльна прыгатаўляць (выгнаць гарчыню), бо лубін не адгорчаны мае ў сабе шмат часткаў труючых. Вызбыцца іх можна гэтак: у сагане ці ў якім-небудзь катле трэба праз адну гадзіну варыць, лічачы ад часу, калі пачне выходзіць пара, а пасьля мачыць двое сутак у стаячай вадзе, зьмяняючы яе за гэты час 4 разы, або ў вадзе бягучай—праз адны суткі.

Каб пераканацца ці лубін належна адгорчаны, трэба яго пакаштаваць: калі ня горкі, то значыць можна ўжываць да корму; у праціўным выпадку трэба мачыць далей.

Лубін пазбаўлены гарчыні ўжываецца як абмешка да іншых пашаў.

Адна вялікая засьцярога—гэта павольнае прывучаньне жывёлы да лубіну. Трэба даваць спачатку мала лубіну, прымешваючы яго да другіх абмешкаў, як вотрубы, параная бульба і г. д.

Далей, не прыгатаўляць лубіну да пашы за раз больш, як на два дні, бо такі адгорчаны лубін хутка псуецца, траціць сваю ад-

hanizacyja ŭsiaho ziemlarobstva, kab vytvorstva nia było adnastaronnym i zdavalała pie radusim vymohi sobskaha rynku i varunki eksportu.

Pryviadu tolki adzin prykład z małačarstva, u jakim bałtyckija respubliki dasiahnuli najbolšych udačaŭ — pieradusim u Łatvii. Pieršaja kooperatyŭnaja małačarnia ŭ Łatvii była zasnavana ŭ 1909 h. Da suśvietnaj vajny było ich tolki 8. U 1920 h. maje Łatvija tolki 16 małačarniaŭ, ale ŭžo ŭ 1923 h. jość ich 319, a ŭ 1930 h. lik kooperatyŭnych małačarniaŭ dasiahaje ličby 450. Tady jak u 1921 h. vyviezła Łatvija tolki 100 q masła, u 1930 h. užo vyviezła 184 310 q. Pry hetym lik dojnych karoŭ padyjmajecca, padyjmajecca dojnaść i kłustaść małaka, a jakaść małačarskich vyrabaŭ ni ŭ čym nia ŭstupaje jakaści staroha, pastupovaha małačarstva krajoŭ paŭnočnych. Jość tut upłyŭ kantrolnych tavarystvaŭ, pieršaje z jakich było założana ŭ 1904 h. U 1930 h. było ich 783 — na adno tavarystva vypadała ŭ siarednim 218 štuk skaciny. Siahońnia kantralujecca hetak 17.5 prac. skaciny va ŭsiej respublicy, pry čym pracent hety stała raście. Metaj kantrolnych tavarystvaŭ jość abniać usiu skacinu ŭ kraju i rezultaty pracy vykarystać u plemianićbie. U dziaržaŭnym budžecie na 1929/30 h. ustaŭlena było na zapamohu dla kantrolnych tavarystvaŭ suma kruhła adzin miljon kron českich.*) Hety ŭkład dobra apłačvajecca.

Jak vidać, pracujuć tut silna i systematyčna. Nia tolki ŭ žyviołahadoŭli, kooperacyi, ale tak-ža va ŭsich inšych halinach. Ziemlarobskamu školnictvu i daślednictvu ŭ Łatvii prypadaje tak-ža važnaja zadača ŭ celaj prahramie raźvićcia. Jość tut daśledčyja instytuty i stancyi lniarskija, aharodnickija, ahulna-raślinnyja, kultur raślin bałotnych, daśledčy instytut mašynaznaŭstva, hlebaznaŭstva, bioklimatyčny, fitopatologičny, roznych raślin polnych, a tak-ža instytut ekanamičny dziela

*) na toj čas kala 220 tysiač złotaŭ.

жыўчую вартасьць і пры скармляньню можа пашкодзіць.

Скармляць адгорчаны лубін можна ўсей хатняй жывёлай; вельмі добры для дойных кароў, бо лубін мае высокі працэнт бялка, патрэбнага да вытвараньня малака.

Для паказаньня вялікай вартасьці аджыўчай лубіну, прыводзім ніжэй лічбы паказываючыя працэнтную колькасьць бялка ў паасобных пашах. І так:

| | | | |
|---|---|---|---|
| авёс мае бялка | 10,3% | выка мае бял. | 23,1% |
| ячмень „ „ | 9,4 „ | лубін жоўты „ | 38,2 „ |
| гарох „ „ | 22,5 „ | лубін сіні „ | 28,7 „ |
| фасоля „ „ | 27,7 „ | | |

З гэтага мы бачым, якую вялікую вартасьць бялковую маюць расьліны стручковыя (гарох, фасоля, выка, лубін), у параўнаньні з расьлінамі збажовымі (ячмень, авёс), а з іх найбольшую вартасьць мае лубін. Дзеля гэтага, з аднаго боку дзякуючы высокай вартасьці аджыўчай і лёгкаму і простаму спосабу прыгатаваньня да пашы, а з другога боку—дзякуючы нізкай цане лубіну на рынку — нашы дробныя гаспадары павінны зьвярнуць належную ўвагу на лубін,як на пашу.

Пры гэтым асягаецца лепшая аджыўчая вартасьць саламянай (беднай на бялко)пашы для жывёлы і ашчаджаецца абмешка з бульбы ці збожжа, якога не заўсёды хапае і для самых людзей.

**А. Д.**

# Як выбіраць племнага кнура.

Паміж нямногімі іншымі прадуктамі земляробскай вытворчасьці, якія апошнім часам знаходзяць сякі-такі збыт, трэба зазначыць прадукты сьвіннога мяса. Сьвініна ў розных формах знаходзе сягоньня далёкія нават рынкі збыту, таму крыху затрымаемся над тым, як дагадавацца добрага матар'ялу. У найбольшай часьці залежа гэта ад таго, якога будзем мець кнура: падчас калі сьвіня перадае свае свомасьці ў год якім 15—20 парасятам, кнур перадае гэтыя ўласнасьці на 500 да 1000 парасят. Дзеля гэтага пры выбіраньні племных кнуроў трэба наўперад пільнавацца таго правіла, што:

1. добры племнік ніколі ня ёсьць за дарагі; благі-ж племнік бывае дарагім і задарма. Дзеля гэтага ня можна ніколі лепшыя парасяты прадаваць, а горшыя — пускаць на плем. Калі-ж прыходзіцца такога кнурка купляць, дык трэба пры гэтым глядзець ад якіх бацькоў такі кнурок паходзіць, як выглядае, ці здаровы і ці ягоны тып згодны з нашымі намерамі (тып сланіновы, мясны, племны і г. д.). Ніколі-ж ня можна пры гэтым кіравацца нізкой цаной такога кнура.

2. Здароўе і будова кнура кажа аб ягонай вартасьці гадаўлянай. Племнае парасё павінна мець добрую форму ня толькі з шнюка і галавы, але і з цэлага цела, ці як кажуць, павінна мець добрую цялесную раму: доўгае, шырокае і глыбокае ва ўсім сваім складзе.

3. Самчы тып племнага кнура ёсьць канешнасьцю; г. зн. такі кнурок павінен мець выгляд іменна кнура, а ня сьвіні, бо толькі такі кнур патрапіць выконываць сваю роль.

4. Адно недаразуменьне з тымі, што думаюць быццам гэта шчасьце, калі кнур бывае тым лепшы, чым раней ён ужо здольны да пакрываньня сьвіні. Практыка разумных гаспадароў нязьбіта даказала, што патомства гэткіх маладых кнуроў бывае малым і нявыраўнаным, сам-жа гэткі кнур вельмі хутка аслабее і часта падатны на розныя хваробы. Дзеля гэтага правілам павінна быць, каб ні ў якім выпадку ня прыпускаць кнура малодшага 9-цёх месяцаў.

daśledavańnia apłatnaści ziemlarobstva, haspadarskaj końjunktury, pytańniaŭ ziemlarobskaha rabotnictva i ahrarnaj palityki. Usie stancyi i instytuty majuć dobruju narodnuju prahramu navukovaj i praktyčnaj pracy, zajmajucca kantrolaj nasieńnia, hnajoŭ, masła, miasa, jajok, bulby i inšych pładoŭ... Vydajecca ŭ paŭnočnych respublikach šmat dobrych ziemlarobskich knih i fachovych časapisaŭ. Zadziŭlaje ichniaja raspašyranaść i vialiki lik padpiščykaŭ i ŭ sialibach drobnych ziemlarobaŭ. Paŭnočnaja viaskovaja moładź vychavana ŭ ciažkaj pracy i dyscyplinie, praniknuta kachańniem sialanstva i ziemlarobskaje pracy. Hetkich zaŭziatych čytačoŭ fachovych časapisaŭ siarod moładzi inšych krajoŭ u takoj masavaści i ščyraści ja dahetul nie paznaŭ. Asabliva ŭ Łatvii tavarystvy moładzi samapeŭna pryhataŭlajucca da žyćcia...

Ziemlarobskaje školnictva dobra prynaroŭlena da patrebaŭ praktyčnaha ziemlarobstva i adyhryvaje vialikuju rol u daradnictvie. Kožnaja takaja škoła heta asiarodak ziemlarobskaha postupu ŭ svajej vakolicy.

Fachovaja i klasavaja ziemlarobskaja arhanizacyja ŭ Łatvii ŭ šmat čym i dla nas cikavaja. Da niadaŭna było tut 13 roznych ziemlarobskich sajuzaŭ, jakija mieli kala 200 stałych pracaŭnikoŭ, specyjalizavcnych na roznyja haliny ziemlarobskaj vytvorčaści. Arhanizacyja ahranamičnaj pomačy była tut praŭda abšyrnaja, ale ŭsich adnak nie zadavalniała. A byli miž hetymi arhanizacyjami i cierci, jakija treba było paśla niejak likvidavać...

U pačatku 1936 h. Łatvija vydaje novy zakon ab arhanizacyi svajej dahetulašniaj Ziemlarobskaj Palaty, jakaja i dahetul vielmi ŭdačny mieła upłyŭ u ziemlarobskim zakonadaŭstvie i ahrarnaj palitycy dziaržavy. Dziejnaść hetaj Pałaty budzie adnosicca da ŭsich halinaŭ ziemlarobstva, čym razumiejecca ŭ Łatvii i laśnictva i aharodnictva z usimi halinami specyjalnymi.

Łatyskaja Ziemlarobskaja Pałata padčy-

5. Каб не марнаваць расплоднай сілы кнура, ня можна пускаць яго да шмат сьвіней. У Англіі, дзе, як ведама, гадоўля стаіць вельмі высака, на аднаго кнура рахуюць толькі 10, а найбольш 20 сьвіней Практыка-ж іншых краёў культурных ні ў якім выпадку не пазваляе трымаць аднаго кнура на больш як на 50 сьвіней.

6. Найлепшае патомства дае кнур 4 ці 5 гадавы, а добра таксама яшчэ спраўляецца кнур і ў 6—7 гадох: трэба іх толькі адпаведна трымаць і карміць. Кнур павінен мець досыць паветра, вады, руху, а калі можна, дык і пасьбішча, каб ня склусьцеў. Далей, добры кнур гэта капітал; таму трэба ўважна пільнаваць ягонага здароўя і перад усім рэгулярна шчапіць проціў чырвонкі. Што датыча корму кнура, дык улетку найлепш даваць яму зялёную пашу, асабліва канюшыну, з малой дамешкай збажжовых шротаў (мукі). Узімку найлепш карміць кнура: кармовымі буракамі, морхвай, дадаючы да гэтага канюшыннай сечкі або аўсяной мякіны. Да гэтага йшчэ $^8/_4$ — 1 кілё мучной абсыпкі, найлепш аўсяной. Ад бульбы і ад ячменю кнур сыцее і таму іх даваць тут ня можна. Усякую пашу кнуру трэба даваць на густа, а ваду да піцьця трэба даваць асобна.

7. На колькі можна маладога кнура пускаць да сьвіні цераз дзень, а старога — па 6—8 гадзінах ад папярэдняга скоку, на столькі ня можна пазваляць, каб кнур двойчы за сабой пакрываў тую самую сьвіню: на заплодненьне гэты другі скок ня мае ніякай вартасьці, а толькі без патрэбы адбірае дарагую распладовую сілу кнура.

8. Кожнае парасё мусіць мець сваё месца пры матцы, якая павінна мець ня менш 12 сісёк: гэтулькі-ж найменш сісёк павінен мець і кнур, бо ягоныя свомасьці найвярней пераносяцца на патомства. **В. К.**

## Каля курэй узімку.

Як толькі пачнуцца першыя маразы і куры або туліняюцца па кутох, або „грэюцца" натапыраныя дзе-небудзь за ветрам на сонцы, — знак гэта, што трэба думаць аб тым, каб забясьпечыць жывіну прад холадам.

Хатнія птушкі ўзімку патрабуюць наўперад супакой і сытную пашу, якая мусіць чаргавацца. Побач з зернем, трэба курыцу карміць пашай расьліннай і мясной. Сталая зьмена пашы вельмі пажаданая. Дзеля гэтага найлепш адзін тыдзень даваць курыцы (і наагул хатняй птушцы) адзін гатунак збожжа, на другі — другі і г. д., напр. пшаніца, ячмень, кукуруза і інш. Практыка паказала, што такое чаргаваньне збажжавін вельмі карысна і для носнасьці курыцы і для ейнага здароўя. Улетку аднак кукуруза больш шкодзіць як памагае, бо куры ад яе вельмі тлусьцеюць і не нясуцца. Затое ўзімку такое тлусьценьне вельмі пажадана, бо тады курыца не баіцца так холаду.

Кепска той гаспадарыць, хто чакае з кармленьнем курыцы да тае пары, пакуль яны не пачнуць несьціся. Гэта вялікая абмылка, бо курыца нясецца з вясны тым, што набера праз зіму. І таму хто ня корміць курыцы, чакаючы пакуль яна не пачне несьціся, той сам спазьняе гэту носнасьць. А трэба ведаць, што узімку зьнесенае яйко мае цану трох яёк зьнесеных улетку.

Носнасьць курэй ўзімку залежа ад цёплага курніка, правільнага састаўленьня кармовай порцыі і ад паветра. Мароз, сьнег шкодзіць носнасьці курэй. Качкі, гусі ня так гэтага баяцца.

Найлепш трымаць курэй і іншую гаспадарскую птушку ў асобных хлявушкох, заўсяды асобна курэй ад качак, гусей і індыкоў. Каб птушка мела ў чым капацца і сагравац-

---

niajecca Ministerstvu Ziemlarobstva i pavinna supracoŭničać z usimi ŭstanovami i instytucyjami dziaržaŭnymi, samaŭradavymi i ziemlarobskaj praktykaj.

Usie dahetulašnija pryvatnyja instytucyi, jakija viaduć ahranamičnuju pomač — z vyniatkam kooperatyvaŭ — musiać likvidavacca, a ichniuju pracu paviadzie i majemaść voźmie Ziemlarobskaja Pałata. Novyja hetkija arhanizacyi zakładać nia možna. Možna zakładać tolki takija ziemlarobskija arhanizacyi i instytucyi, jakija majuć za metu padniaćcie ziemlarobstva i žyćcia na vioscy i to pavodle statutu, jaki vydaść Ziemlarobskaja Pałata. U kožnaj łatyskaj vioscy dazvolena zakładać tolki adnu ziemlarobskuju arhanizacyju, dla katoraj vydadzieny normalnyja statuty. Jość heta ŭłaścivyja miascovyja hurtki Ziemlarobskaj Pałaty — asnova jejnaj fachovaj pracy.

Łatyskaja Ziemlarobskaja Pałata składajecca z 100 siabroŭ i 50 zastupnikaŭ, naznačanych ministram ziemlarobstva na prapanovu prezydyjumu Pałaty; pry hetym pryjmajecca pad uvahu, kab u Pałacie byli ludzi zasłužanyja ŭ navucy, a taksama takija, jakija majuć zasłuhi prad łatyskim ziemlarobstvam. Pałata pracuje ŭ 15 sekcyjach, jakija abyjmajuć usie haliny ziemlarobstva ŭ najšyršym značeńni słova. U kožnaj sekcyi jość pradstaŭnik ministerstva ziemlarobstva, jaki maje prava hołasu. Pałata finansova dobra zabiaśpiečana, maje svaje sobskija dachody i taksy za roznyja słuzbovyja čynnaści i dapamohi dziaržaŭnaha biudžetu. Paŭnamoctvy Pałaty vielmi šyrokija i abyjmajuć ziemlarobstva cełaha kraju.

U bałtyckich respublikach, asabliva ŭ Łatvii źviartajecca vialikaja ŭvaha na sposab žyćcia na vioscy. Vypracavany prykładnyja plany ziemlarobskich budynkaŭ i sialibaŭ. Usiudy dajecca piaršynstvo miascovamu matarjału i stała ŭvažajecca, kab budavałasia nia tolki racyjanalna, ale i tanna. Jość tut imknieńnie ablehčyć pracu sielskaj haspadyni, zabiaśpiečyć vyhadniejšaje žyćcio i lahčejšaje vykonvańnie štodziennaj pracy. Dzivicca treba, jak dobra heta ŭdałosia i jak pry hetym tanna.

ца, у куток сыплецца сечка, мякіна ці пілавіньне, а найлепш торф, бо ён уцягівае ў сябе сырасьць і гэтым самым асушвае курнік.

Часам можна пачуць, што добра трымаюцца куры і ў супольным з скацінай хляве. Гэта ня праўда. Не гаворачы ўжо аб тым, што куры ў такім хляве дакучаюць іншай жывёле, усюды брудзяць, яны там набаўляюцца раматузу, ад якога пасьля зусім гінуць. Зьдзівіць можа не аднаго, скуль у хляве можна дастаць раматуз. Вот-жа ў хляве заўсяды ёсьць сырасьць, каторая наскрось пранікае курыцу. А калі такая курыца выляціць на хвільку на двор, дык адразу мерзьне і ад гэтага хварэе. Дык увага! **Б. Б**

## Малачарскае Таварыства ў Баранавічах зьліквідавана.

На надзвычайным сходзе сяброў (коопэратываў) Малачарскага Т-ва ў Баранавічах дня 8 лістапада сёл. вынесена пастанова аб ліквідацыі гэтага Т-ва.

Малачарскае Т-ва паўстала ў 1932 г. з сядзібаю спачатку ў Вялікай Ліпе, Нясьвіскага пав., а па годзе — у Баранавічах. Першымі сябрамі Т-ва былі коопэратыўныя малачарні ў Вял. Ліпе і ў Аношках, Нясьвіскага пав. У 1933 г. Т-ва здабывае новых дастаўцоў, з якіх некаторыя прыступілі на сяброў. Гады 1934 і 1935 гэта час дальшага ўзросту абаротаў Т-ва. А за дзесяць месяцаў 1936 г. Т-ва ўдвоіла абароты ў параўнаньні з цэлым годам 1935-тым.

Праца Т-ва знаходзіла прызнаньне ня толькі сярод самых сарганізаваных беларускіх сялян, для каторых і працавала, але і сярод элемэнту чужога. На няшчасьце Т-ва аднак і пад націскам Рэвізыйнага Саюзу апертага на новы польскі закон аб коопэратывах, Т-ва прымушана было прыпыніць сваю дзейнасьць як раз у пару найбольшага свайго разьвіцьця.

Рэвізыйны Саюз ня то што не дапушчаў новых малачарняў у Т-ва, але прыгразіў, што і гэтыя, якія сяньня у Т-ве ёсьць сябрамі, будуць адцятымі ад Рэвізыйнага Саюзу і зьліквідованыя, калі ня будуць слухаць яго прыказаў. Малачарскі-ж Саюз пасьпяшыў адчыніць у Баранавічах склеп, будучы пэўным „помачы“ Рэвізыйнага Саюзу. Ясная рэч, Т-ва знайшлося ў такім палажэньні, што мусіла здацца.

Пры арганізацыі Т-ва беларускі мужык больш мо' за інтэлігента паказаў, што разумее арганізацыю. Адно можна было-б закінуць, што стойка і да канца ня вельмі ўмее бараніць сваю арганізацыю ад наступленьня непрыяцеля. Да гэтага пытаньня йшчэ пры магчымасьці вернемся з больш падрабязнымі лічбовымі і фактычнымі дадзенымі. **Ш. С.**



## З ГАЗЭТ

**Ген. Жэлігоўскі аб памешчыках.** З прычыны перавыбараў ураду Віленскай Землябрскай Палаты, ген. Жэлігоўскі напісаў у газэты артыкул, у якім аб памешчыках на землях заселеных беларусамі сказана даслоўна гэтак:

„Гэта кляса падчас няволі („zaborów“) пашырала польскасьць і мае заслугі прад Краем. Мае і традыцыйныя недахопы у адносінах да сялянства. Маючы ўсе дадзеныя на тое, ніколі ня стала рашуча ў абароне інтарэсаў вёскі.“

**Для „Крэсув“—„рожкі й ножкі.“** У часапісе „Gospodarka Narodowa“ і (№ 23) З. Шэмпліньскі напісаў вялікі артыкул аб „плянованю інвэстыцый“ (будаваньню гаспадарчага жыцьця), у якім найвыразьней дамагаецца, каб грамадзкія грошы (з падаткаў) ішлі перад усім у Цэнтральную Польшч (ваяводзтвы: Кракаўскае, Келецкае, Люблінскае і Варшаўскае); на „Крэсы-ж“ аўтор хоча высылаць наперад „прыватную“ ініцыятыву, “г. зн. прыватных капіталістаў. Публічны грош на „Крэсы“ той-жа аўтар хацеў-бы пускаць толькі тады, калі ўся Цэнтральная Польшч будзе перасычана ўсякімі фабрыкамі і калі „Крэсы“ да Польшчы прывяжуцца.

Сягоньня і за гэту адкрытасьць трэба быць удзячным.

*Kutok dla haspadyń.*

### Kaŭbasy.

Na kaŭbasy ŭžyvajem miasa z žebraŭ, sałaniny, małych palandvicaŭ, łapatak, časam i karkaviny. Možna dadavać na každyja 3 kg. miasa švinnoha 1 kg. vałovaha. Miasa kroicca drobna nažom i vyrazajucca ŭsiakija žyły. Kaŭbasy krojenyja nažom smačniejsyja i tryvalejšyja.

Na 10 kg. miasa treba ličyć 25 deka soli, 5 gr. saletry, 8 deka cukru, 7 gr. piercu prostaha, 3 gr. babkovaha listu, 3 gr. kalandry, 3 gr. piercu anhielskaha, 4 gr. hvaździki, 3 gr. majranu, 1/2 hałoŭki časnaku, 1 muškatałovaja hałka. Kali miasa skryšycca, dyk adrazu kładziecca sol, saletra, cukar i prosty pierac, miašajecca, kab roŭna razsaliłasia i stavicca ŭ ciopłaje miesca na hadzin 8; paśla kładziecca časnok i varycca navar z 1 litra vady i rešty kareńniaŭ, pieracedžvajecca i za harača ŭlivajecca ŭ miasa. Jašče možna dadać 2 kiliški śpirtu, vymiašać, jak chlebnaje ciesta i tady napichać u kiški. Dla skarejšaha karystańnia možna napichać u kiški cieńkija i słabiej, a ułetku treba napichać u kiški taŭstyja i nadta tuha. Prazmieru taŭstych kišak napichać nia treba, bo mohuć skvaśnieć. Najlepšy čas pryhataŭlańnia miasa i kaŭbasy na leta heta pałavina lutaha i pačatak sakavika.

## Sałanina.

Sałaninu treba salić asobna i da hetaha treba mieć asobnuju bočku ci cebar. Kali chočam, kab była sałanina sušejšaja, dyk treba salić ŭ skryncy z niaščylnym dnom.

Pieršy sposab saleńnia sałaniny taki: na 10 kgr. sałaniny biarecca 75 deka soli, 7 gr. saletry. Sol treba spražyć, a sałaninu parezać na kavałki, nacirać dobra solaj i składać ščylna ŭ bočku abo ŭ cebar, skuraj naniz, nakryć denkam i kamieniam nacisnuć.

Druhi sposab saleńnia sałaniny: Skrynka pavinna być čystá vymyta i vysušana. Na 10kg. sałaniny dajecca 75 deka soli, 7 gr. saletry 5 gr. piercu prostaha, 5 gr. babkovaha listu, 3 gr. piercu anhlickaha, 3 gr. kalandry, 4 gr. hvaździki. Usio razam ścirajecca i nacirajucca dobra kavałki sałaniny. Dno skrynki vysypajecca solaj z usiakimi prypravami. Kładziecca kavałak sałaniny naciorty solaj z prypravami skuraj na dno skrynki, a paśla jznoŭ syplucca prypravy, iznoŭ kładziecca kavałak sałaniny, ale užo skura pavinna być navierch, a paśla syplecca pryprava na skuru i kładziecca skura da skury. Takim paradkam možna nadta mnoha nasalić sałaniny.

Uvaha: skrynka pavinna być adpaviednaj vialičyni. Treba, kab sałanina była ščylna i roŭna nałožana, možna pałažyć i sała. Tady treba nakryć doškaj, pastavić u suchim pravieŭnym miescy. Hetak pryhatavanaja sałanina moža stajać praz całaje leta, nia budzie jałčeć i budzie vielmi smačnaja.

## Kaŭbasa paštetovaja.

Uziać ciažkija (vantroby), dobra vymyć, a navat vymačyć, źmianiajučy vadu. Paśla pałažyć u sahan, nalić vadoj i varyć. Kali začynaje kipieć, dyk treba zaraz vyniać i ŭkinuć u zimnuju vadu, kab astyli. Paśla iznoŭ ułažyć u sahan i varyć tak, kab zvarylisia, ale nie pieravaryć.

Na całyja ciažkija dadajecca jašče śvinnoha miasa: karkaviny 1 kg., bačka 1 kg. i abrezkaŭ tłustych 1 kg. Usio heta razam varycca z dadańniem 2 cybul, babkovaha listu, anhlickaha piercu.

Jak ŭsio razam zhatujecca, dyk treba astudzić i tady ŭsio razam skrucić u mašyncy i dadać kavałak razmočanaj bułki. Ciažkija, usio miasa, varanuju cybulu i bułku treba prapuścić praz mašynku 2—3 razy, paśla pasalić da smaku i dadać łyžačku miašanych kareńniaŭ, dobra ŭsio vymiašać, a paśla napichać u taŭstyja roŭnyja kiški, daŭžyni 30—40 cm., jakija jšče treba pałažyć u zimnuju vadu i varyć praz 15 minut ad času, kali pačnie kipieć

Š. M.

## ГАСПАДАРСКАЯ ХРОНІКА

**Непадзельнасьць гаспадарак.** Газэтамі праляцела вестка, што Міністэрства Земляробства прыгатовіла праект закону аб непадзельнасьці тых гаспадарак, якія паўсталі з парцэляцыі пасьля 1 верасьня 1919 году.

У аснове сваей вельмі добры й слушны гэты закон крые ў сабе вяліку.о небясьпеку для нашага селяніна ў тым сэнсе, што выключаныя з права насьледзтва сялянскія дзеці ня мелі-б куды сягоньня падзецца. Кажам выразна „сягоньня", бо сягоньня няма йшчэ і ня чуваць, каб хто паважна думаў аб тым, на якую работу паставіць гэтых „непатрэбных" для вёскі людзей.

Дзеля гэтага ўважаем за канешнае, каб перш, а ў найгоршым разе поруч із законам аб агранічэньню падзелу зямлі, нехта паважна задумаўся над тым, як стварыць варстат працы для тых, што сваю бацькаўскую хату прымушаны будуць пакінуць.

**Перавыбары Ўраду Земляробскай Палаты.** Выбраны на паседжаньні дня 17 г. м. ўрад Віленскай Земляробскай Палаты прадстаўляецца гэтак: ген. Л. Жэлігоўскі, Ул. Камінскі, Ч. Дэмбіцкі, Я. Тшэцяк, Ул. Бароўскі, Сечка, Эд. Таўрогінскі, Эр. Еленеўскі і Бр. Вэндзягольскі.

**Полацкі гасьцінец забрукаваны.** Забрукоўваньне часьці гістарычнага Полацкага гасьцінцу, паміж Вільняй і Паставамі, пачата было йшчэ ў 1928 г. і кончана толькі сёлета. Агулам забрукавана і выгладжана 130 кілёмэтраў дарогі, якая перасякае абшар трох паветаў, праходзячы ад Вільні праз: Н.-Вілейку, Міцкуны, Лаварышкі, Варону, Міхалішкі, Сьвір, Кастантынава, Кабыльнік, Варэньнікі, Паставы. Выканчаны гасьцінец аддадзены да агульнага карыстаньня дня 20 лістапада сёл. Забрукаваньне гэтага гасьцінцу каштавала агулам 3.101.019 злотаў, так што адзін кілёмэтр каштаваў каля 26.750 зл. Кошты гэтыя на супалку пакрылі: казна і фонд працы. Тэхнічным кіраўніком будовы дарогі быў інж. Ч. Тапалевіч.

**Мясная фабрыка ў Баранавічах.** З ініцыятывы Віленскай Земляробскай Палаты і пры дапамозе Польскага Саюзу Экспортэраў Бэконаў была выбудавана на нашых землях першая мясная фабрыка ў Баранавічах, якая афіцыяльна была адчынена дня 19 г. м. Фабрыка гэта абыймае бойню, лядоўню, уласьцівую фабрыку мясных вырабаў і салярню скураў. Уся фабрыка так пабудавана, каб магла перарабляць у месяц 3 тысячы штук сьвіней і даць працу 70 работнікам.

Кошт пабудовы гэтай фабрыкі, разам з правядзеньнем чыгуначнай бакавой лініі ў фабрыку з Цэнтральнага Баранавіцкага вагзалу, абрахоўвуюць каля 500 тысяч зло-

таў. Арэндуе фабрыку фірма „Крэсэкспорт.„

Падобныя фабрыкі патрэбны йшчэ ў Лідзе, Новай-Вілейцы і Глыбокім.

**Вялікі пажар фабрыкі дроту і цьвякоў у Лідзе.** 23 лістападу згарэла ў Лідзе фабрыка дроту і цьвякоў С. Савіцкага і С-кі. Страты аблічаюць на 200 тысяч злотаў. Фабрыка была застрахована на 150 тысяч зл. У фабрыцы працавала больш 100 работнікаў.

**Гдыня для Ві ьні за дарагая.** Віленская Рамесьніцкая Палата сьцьвердзіла анагдай, што пры вывазе заграніцу вырабаў з дрэва кошты перавозу з Вільні ў Гдыню забіраюць цэлую траціну вартасьці ўсяго тавару. Доказ гэта йшчэ адзін, што Вільня Гдыняй карыстацца ня можа. Натуральны выхад у сьвет для Вільні вядзе толькі праз блізкія берагі Балтыцкага мора. Але яны належаць да... Латвіі і Літвы.

**Аднаўленьне шкляной гуты.** У мясцовасьці Старая Гута, Ільскай гм. Вялейскага пав. 20 лістапада пушчана ў ход шкляная гута. Прадпрыемства гэта існавала тут даўней і цяпер яно толькі адноўлена дзякуючы ініцыятыве безработных гутнікаў, якія злучыліся ў коопэратыву. Удача гуты будзе залежыць ад таго, ці ўдасца знайсьці збыт на выраблены тавар і як вырашыцца пытаньне перавозкі тавару, бо да найбліжэйшай чыгуначнай станцыі аж 35 кілёмэтраў.

**Аграніч**э**ньне выезду ў Бразылію.** Консулят Бразылійскі паведамляе, што будзе выдаваць дазвол на выезд у Бразылію толькі тым асобам, якія прадставяць пасьведчаньне, што яны паходзяць з сялянскай сям'і, або што цяпер жывуць з земляробства ці ўрэшце йнакш неяк дакажуць сваю лучнасьць з земляробствам.—Хоць раз, ды аплаціцца быць земляробам.

**Процію прымусовай страхоўкі ураджаю.** Дэлегаты земляробскіх арганізацый і коопэратываў Пастаўскага павету, на зьезьдзе ў Паставах дня 15 м. м. выказаліся процію прымусовага страхаваньня земляробскіх ураджаяў і гэтым самым процію пастановы мясцовага паветавага Сойміку з м-ца ліпня сёлета.

## Дробныя рады.

**Яшчэ адзін спосаб пазнаваньня сьвежых яёк.** У чысты гаршчок ці збанок наліваецца чыстая (нясоленая!) вада і кладзецца туды па аднаму яйку. Калі такое яйко ляжыць на дае судзіны роўна, дык яно добрае; калі-ж падыймаецца пяткай уверх, дык яно ўжо ня сьвежае і калі яно навет усплыве наверх, дык гэта знак, што яно зусім сапсутае.

**Як зважыць сьвіню бяз вагі.** Усякую кормную жывёлу, а тымбольш сьвіню найлепш прадаваць на вагу. Гандляры маюць практыку і патрапяць зважыць жывёлу навока. Селянін-жа гэтай практыкі ня мае, вагі пад рукой таксама няма і таму звычайна селяніна ашуківаюць. Дзеля гэтага ёсьць спосаб — хоць і ня зусім дакладны — аблічыць вагу жывёлы пры помачы меры (у цалях). Робіцца гэта так: мерыцца даўжыня штукі, ад шыі да хваста, у цалях (цаль мае 2.6 см.). Пасьля мерыцца шырыня тулава (грубіня) і першую лічбу (даўжыню) множыцца праз другую (шырыню). Шырыню тулава мерацъ зразу за пярэднімі нагамі. Тое што ад гэткага мнажэньня атрымаем (множыва) трэба падзяліць: у сьвіней добра гадаваных — праз 11, сярэдне гадаваных — праз 12 і слаба гадаваных — праз 13. Тая лічба, якая пасьля гэтага атрымаецца, азначае бітую вагу сьвіні ў фунтах (не ў кілёграмах).

Хочачы знаць жывую вагу гэтак зьмеранай сьвіні, трэба гэту бітую вагу падзяліць на чатыры (4) і гэту чвёртку дадаць да вагі бітай.



Redaktar inž. A. KLIMOVIČ Vydaviec A. DASIUKIEVIČ

Bielaruskaja Drukarnia im. Fr. Skaryny, Vilnia, Zavalnaja 1 — 2.



# Зьмест „САМАПОМАЧЫ“ за 1936 год.





